*З родным словам кроў не стыне...*
*Алесь Бабаед*



# КАРДОН

**№16 Лістапад 2000**

Інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства беларускай мовы"

# "БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДУ."

Быў. Ёсць. Буду.
Таму, што заўжды, як пракляты,
Жыву бяздоннай трывогай,
Таму, што сэрца маё распята
За ўсе мільярды двухногіх.

За ўсіх, хто ўздымае цяжкія разоры,
Хто ў гарачым пекле металу,
За ўсіх, хто змагаецца з небам і
моры,
За жывых і за тых, што сканалі.

За ўсіх, хто крывёю піша
У нязгодзе
З рабства подлай дарогай,
Хто за Край Свой Родны,
за ўсе Народы
Паўстане нават на Бога.

За ўсіх, хто курчыцца ў
полымі вёсак,
Хто ратуе краіну ад краху,
За ўсіх, хто бясстрашна глядзіць
у нябёсы
З барыкады,
З пушчы
І з плахі.

Хто са смерцю гаворыць з вока на
вока,
З яе ўсмешкаю ветлай,
І ўсё ж узводзіць – нясцерпна далёкі
Храм наш агульны і светлы.

А калі ён горда заззяе ў зеніце –
Непарушны – ўзнясецца ў неба,
Вы з распятага сэрца кроплю
вазьміце.
Апошнюю.
Болей не трэба.
І няхай яна збоку, недзе на ганку,
Дагарае й дзяцей не страшыць
На граніце любові,
На граніце світанку,
На граніце велічы вашай.

*Уладзімір Караткевіч*



**26 ЛІСТАПАДА - 70 ГОД СЛАВУТАМУ БЕЛАРУСКАМУ ПІСЬМЕННІКУ ЎЛАДЗІМІРУ СЯМЁНАВІЧУ КАРАТКЕВІЧУ**

***Матэрыялы, прысвечаныя юбілею, чытайце на стар. 5,6.***

# ЧЫРВОНАЕ КОЛА НЕ ВЕДАЛА ЛІТАСЦІ

***Лістапад аб'яднаў два святы: Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі і Дзень працаўнікоў сельскай гаспадаркі. Ні першае, ні другое вялікай радасці не выклікае. Але сувязь паміж імі есць. І аб гэтай сувязі наш зусім не святочны роздум.***

Усяму свету вядома, што бальшавіцкая імперыя – імперыя паднявольнай працы. Асабліва ў сельскай гаспадарцы. І ў часы СССР і сёння харчовая праблема выклікае галаўны боль кіраўнікоў. Дзяржаўныя ўкладанні ў падтрымку калгасаў і саўгасаў даюць вельмі нізкую аддачу. Даводзіцца ісці з працягнутай рукой да "праклятых імперыялістаў". А да рэвалюцыі ж, наадварот, прадавалі зерне за мяжу. Тады асноўнымі вытворцамі сельгаспрадукцыі былі буйныя гаспадаркі памешчыкаў і заможных сялян.

Ленін і яго паслядоўнікі не мелі дакладнай канцэпцыі развіцця сельскай гаспадаркі. За аснову быў узяты тэзіс Маркса, што сялянства – рэакцыйны клас. Памешчыкаў і кулакоў наогул вырашылі знішчыць. З гэтага і пачаліся наступныя крывавыя эксперыменты.

Быў зламаны эканамічны механізм. Хлеб у сялян дзяржава пачала не купляць, а адбіраць за бясцэнак. Сяляне былі пазбаўлены магчымасці прадаваць прадукты сваёй вытворчасці па рыначных коштах. Вынік стаў бачны адразу. Ужо ў першую пасля рэвалюцыі зіму ў гарадах адчулі нястачу харчу.

Вясной 1918 года Саўнарком прыняў дэкрэт "Аб харчовай дыктатуры", які прадпісваў правесці бязлітасную барацьбу супраць сялян, якія ўтойваюць лішкі зерня. Пачалі стварацца ўзброеныя харчатрады, якія накіроўваліся ў вёскі на санкцыянаванае рабаўніцтва сялян. Адбіралі не толькі зерне, а і бульбу, і кароў, і дробную жыўнасць. Самых заможных пазбаўлялі ўсёй маёмасці і адпраўлялі ў Сібір.

**(працяг на стар. 2)**

# ЧЫРВОНАЕ КОЛА НЕ ВЕДАЛА ЛІТАСЦІ

Сяляне, як маглі, супраціўляліся: хавалі зерне і бульбу, рэзалі скаціну. Тады супраць іх прыдумалі новы прыём: "залажэнне". У заложнікі бралі самых паважаных на вёсцы людзей. Даводзілі агульны план здачы харчу, а калі ён не выконваўся, заложнікаў бязлітасна расстрэльвалі і набіралі новых.

Чырвонае кола пакацілася па зямлі, падмінаючы ўсіх, хто пад яго трапляў. Пачалася крывавая бойня. У лік контррэвалюцыянераў і эксплуататараў трапілі і прамыслоўцы, і купцы, і святары, і рамеснікі, і афіцэры, і сяляне.

Летам 1918 года быў прыняты яшчэ адзін сумнавядомы дэкрэт пра харчразвёрстку. І хоць па закону адбіраць трэба было толькі лішкі, на самой справе забіралі часам нават апошняе, не пакідаючы нават на насенне.

Зямлю абвясцілі дзяржаўнай уласнасцю. Спяшаліся разбурыць прыватную ўласнасць. На памешчыцкіх землях пачалі ствараліся арцелі і камуны, у якіх панавалі ўраўнілаўка і беднасць. Была страчана гістарычная памяць і народная мараль. Праца на зямлі губляла сэнс.

Толькі за год у Цэнтральнай Расіі адбылося каля 300 сялянскіх бунтоў, якія бязлітасна падаўляліся сіламі Чырвонай Арміі. Супраць паўстанцаў Тамбоўскай губерні ваяваў Тухачэўскі.У ягонай 45-тысячнай арміі былі гарматы і кулямёты, бронецягнікі і самалёты. Супраць сялян прымянялі нават хімічную зброю масавага паражэння, калі ад газаў гінула ўсё жывае: і людзі, і жывёла. На вачах у насельніцтва расстрэльвалі па 50-100 заложнікаў. Партызанскія атрады сялян былі знішчаны. Сем'і паўстанцаў, каля 50 тысяч чалавек былі кінуты ў лагеры.

Чырвоны тэрор дакаціўся і да Беларусі. У 1920 годзе было жорстка падаўлена Слуцкае паўстанне. Загінулі сотні самых умелых і працавітых гаспадароў. Сёлета якраз 80 гадоў Слуцкаму збройнаму чыну.Быў супраціў і ў нашым раёне. Матэрыял пра Бешанковіцкае сялянскае паўстанне змешчаны нижэй.

Зямля асірацела. Адарваныя ад уласнай зямлі і гаспадаркі сяляне страцілі сэнс жыцця. Яго ўжо і не шукаюць сучасныя калгаснікі, на галовы якіх замест асэнсавання памылак мінулага несупынным патокам ліецца прапагандысцкая траскатня.

# БЕШАНКОВІЦКАЕ ПАЎСТАННЕ

*Антыбальшавіцкі супраціў на Віцебшчыне зусім мала даследаваная старонка нашай гісторыі. Дзесяцігоддзі панавання камуністычнай гісторыі зрабілі тэму супраціву амаль закрытай. Толькі пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў 1991 годзе з'явіліся асобныя публікацыі, прысвечаныя супраціву бальшавізму.*

*Гарадоцкай Радай ТБМ пры падтрымцы ГА "Фонд імя Льва Сапегі" былі праведзены гісторыка-краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя антыбальшавіцкім паўстанням на Віцебшчыне. Менавіта дзякуючы старшыні Гарадоцкай Рады ТБМ Леаніду Гараваму і быў падрыхтаваны гэты матэрыял.*

Рэвалюцыя ўнесла шмат блытаніны і неразбярыхі ў сельскую гаспадарку, якая рэзка пачала заняпадаць і разбурацца. Сяляне супраціўляліся спачатку пасіўна і моўчкі, спадзеючыся, што жыццё неяк наладзіцца. Не наладжвалася. Бальшавікі з вялікім імпэтам пачалі секці сук, на каторым сядзелі. Спачатку разрабавалі і разбурылі буйныя панскія маёнткі. Пазней узяліся і за найбольш заможных сялян. Якіх толькі абвінавачванняў тым не прад'яўлялі: і "непрызнанне Савецкай улады", і "агітацыя супраць Савецкай улады", і "контрэвалюцыйная агітацыя". Турмы былі перапоўнены выхадцамі з вёскі, якія ў большасці наўрад ці разумелі ў чым іх абвінавачваюць і за што пасадзілі. Палеткі ж усё часцей заставаліся неўзаранымі і незасеянымі. Нечалавечая палітыка і марадзёрствы бальшавікоў абурала і крыўдзіла сялян. У далейшым гвалт пачаў выклікаць актыўнае супраціўленне.

Напружанне расло. У лістападзе 1918 года пачалося паўстанне ў Веліжскім павеце, якое хутка перакінулася на Гарадоччыну і ахапіла большую частку Віцебскай губерні. Быў выстаўлены лозунг "Далоў Саветы!". Сярод паўстанцаў былі афіцэры Белае гвардыі, памешчыкі, духавенства, але галоўным чынам гэта былі сяляне. "Чырвоныя" стварылі Надзвычайны штаб па барацьбе з паўстанцамі, абвясцілі ваеннае становішча і пачалі браць заложнікаў з ліку заможных жыхароў. Бралі залог і грашыма. За непадпарадкаванне пастановам штаба – расстрэл. Паўстанцаў таксама расстрэльвалі на месцы. Сілы былі няроўныя. На сёмы дзень змагання быў разбіты 3000 атрад пад Веліжам і Веліжскае коннае злучэнне. На Пакроўскім полі пад Веліжам некалькі дзён і начэй расстрэльвалі паўстанцаў. Арышты і ліквідацыя паўстанцаў вялася і ў іншых паветах. Паўстанне было жорстка падаўлена.

Звестак пра тыя паўстанні нямнога. Большасць бумаг магла знікнуць пры шматлікіх пераменах улады ў час грамадзянскай вайны. Частка матэрыялаў, магчыма, і да гэтай пары засакрэчана. Тым больш цікавай з'яўляецца кніга Юркі Віцьбіча (Юрася Стукаліча) "Антыбальшавіцкія паўстанні і партызанская барацьба на Беларусі". Ен быў піянерам у распрацоўцы гэтай тэмы. Сваю навуковую працу ен завяршыў у 1952 годзе, але надрукавана яна была тоькі ў 1996 годзе ў Нью-Йорку. Пра Юрку Віцьбіча (1905 – 1975) хацелася б сказаць асобна. Яго імя ведаюць не ўсе.

**(працяг на стар. 4)**

# БУРАЎКІН У БЕШАНКОВІЧАХ

***

Чорнай навалаю коціцца зверху
Гвалт небывалы,
Раз'ятраны вэрхал.
У кіраўнічых суровых прамовах
Бэсціцца зноў беларуская мова:
Быццам бы наскія словы не здатны
Выказаць талент і розум выдатны.

Новай уладзе не пашанцавала –
Хоць да спадобы ёй бульба і сала,
І самазвалы,
І фермы,і нівы,
Непераборлівы люд наш цярплівы,
Бор карабельны
І мёд верасовы –
Косткай у горле –
Народная мова.

Колькі цкавалі яе і глумілі,
А не складае падбітае крылле,
А ўсё жыве і ніяк не канае –
Песня азёрная,
Казка лясная.

Перажыла наша родная мова
І Бенкендорфа, і Мураўёва,
Панскія здзекі,
Чэкісцкія чысткі,
Рогат імперскі,
Вырак фашысцкі...

Тых,
Што з трасянкаю ў галаве,
Перажыве!..

***

Б'юць па спіне цапы,
Зрок засцілае мліва...
Цярпі, народ, цярпі,
Раз ты такі цярплівы.

Твой дзеляць каравай,
Твае ламаюць жорны...
А ты, народ, трывай,
Раз ты такі пакорны.

Твае паслугачы
Падбрэхваюць лісліва.
А ты, народ, маўчы,
Раз ты такі маўклівы.

Грызі сухі калач,
Збірай завялы верас...
Не плач, народ, не плач –
Масква слязам не верыць...

*Г. Бураўкін*



**За аўтографам да паэта**

У Бешанковічы па запрашэнню "Таварыства беларускай мовы" завітаў Генадзь Бураўкін –, знакаміты беларускі паэт і грамадскі дзеяч. Асноўная мэта ягонага прыезду на Віцебшчыну – юбілейныя мерапрыемствы да 70-годдзя Караткевіча. З цёплых успамінаў пра свайго знакамітага сябра Генадзь Бураўкін і пачаў сустрэчу ў РДК. Потым чытаў свае вершы з новага зборніка "Паміж зоркай і свечкай" і напісаныя раней. Дарэчы, жадаючыя маглі набыць гэты зборнік і іншыя беларускія кнігі, дзякуючы прысутнасці выдаўца Яўгена Лецка.

Расказаў крыху пра сябе. Нарадзіўся на Расоншчыне, школу закончыў у Полацку. Вучыўся ў Дзяржуніверсітэце. Стаў журналістам. Працаваў карэспандэнтам "Праўды" па Беларусі, шмат год быў рэдактарам выдавецтва "Маладосць", стварыў беларускае тэлебачанне. Чатыры гады жыў у Нью-Йорку, быў пастаянным прадстаўніком Беларусі ў ААН. Зараз працуе ў часопісе "Вожык".

Пасля чытання выбраных вершаў паэт прапанаваў задаваць пытанні. Вось тут і выявілася вялікая цікавасць да майстра слова. Пытанняў было вельмі многа. І ніводнае з іх Генадзь Мікалаевіч не пакінуў без адказу, прычым адказы былі шчырыя і ёмкія, часам з гумарам. Напрыклад, на пытанне: "Як Вы пішаце вершы?" быў адказ: "Пішу злева направа". Але большасць адказаў давала магчымасць зразумець багаты жыццёвы вопыт творцы, ягоныя перакананні і развагі. Вось некаторыя пытанні і адказы, хоць гэта не даслоўны пераказ.

- *Калі Вы пачалі пісаць вершы?*

- Вершы пачаў пісаць яшчэ ў школе. Настаўнікі ведалі, што я спрабую пісаць, і далі заказ раскрытыкаваць у сценгазеце свайго аднакласніка. Я напісаў верш. І ў той жа дзень атрымаў свой першы ганарар: па дарозе дамоў мяне пабілі сябры пакрыўджанага аднакласніка. Білі, відаць, шкадуючы, бо жадання пісаць не адбілі. Толькі на ўсё жыццё я зрабіў вывад, што пісаць трэба не на заказ, а тое, што табе самому хочацца сказаць.

- *Раскажыце пра Ваша першае каханне?*

- Маё першае каханне – гэта мая жонка. Мы сустрэліся ва ўніверсітэце і вось ўжо больш сарака гадоў разам.

**(працяг на стар. 4)**

# БУРАЎКІН У БЕШАНКОВІЧАХ

(пачатак на стар. 3)

Вырасцілі сына і дачку, маем трох унукаў. Каханне – гэта шчаслівае святое пачуццё. Калі яно прыйшло да вас – беражыце яго, ваюйце за яго. Той, хто не зведаў кахання – няшчасны чалавек.

*- Ці хацелі Вы застацца ў Амерыцы?*

- Не, застацца не хацеў. Вядома, там добра наладжаны быт, але сны сніліся пра родную Беларусь. Вершаў там я таксама не пісаў. Ніводнага верша за чатыры гады! Хацелася б, каб на Беларусі, як у Амерыцы было, па-першае: калі чалавек добра працуе, то ён добра жыве, мае кватэру, машыну, забяспечаную старасць. Другое: там не толькі чалавек адказвае перад дзяржавай, але і дзяржава перад чалавекам.

*- Якія Вашы самы любімы вершы?*

- Адзін самы любімы верш выбраць не магу. З цягам часу адносіны да таго ці іншага верша мяняюцца. Нагогул, верш – гэта зафіксаванае ў словах імгненне душы.

*- Вашы адносіны да веры ў Бога?*

- Асабліва веруючым я сябе не лічу, я хутчэй атэіст. Але з глыбокай павагай адношуся да тых, хто мае веру. Я вельмі не люблю людзей, у якіх няма ніякай веры. Я веру, што калі чалавек робіць зло іншым людзям, ён абавязкова будзе пакараны, Бог яго пакарае.

*- Раскажыце пра які-небудзь смешны ці цікавы выпадак з Вашага жыцця.*

- Я быў добра знаёмы з многімі касманаўтамі, пачынаючы з Юрыя Гагарына. Вельмі ганаруся гэтым знаёмствам, бо касманаўтаў тады было толькі двое. Гагарын абяцаў прыехаць у Мінск, але не паспеў. Я напісаў паэму "Расстанне" памяці Юрыя Гагарына. А аднойчы сам ледзь не трапіў "у касманаўты". Пасля аднаго са з'ездаў камсамола ў Маскве, мы з Церашковай і Шаталавым вырашылі выпіць на развітанне па чарачцы "Белавежскай". Калі мы потым разам выйшлі з гасцініцы і накіраваліся да машын, то з усіх бакоў пачалі пытацца: "А вы хто такі?", цікавасць да касманаўтаў тады была вельмі вялікая. Ну, я і напусціў туману: "Прыйдзе час - даведаецеся".

Пасля адказаў на пытанні гледачы мелі магчымасць атрымаць аўтограф паэта. Здаецца, не менш паловы прысутных выкарысталі гэтую магчымасць, многія загадзя падрыхтавалі кнігі паэта, якіх выйшла ўжо каля трыццаці. У пачатку наступнага года павінна выйсці яшчэ адна: "Чытаю тайнапіс вачэй", у якой сабраны 110 лепшых вершаў пра каханне. На развітанне паэта падзякавалі, уручылі кветкі і запрасілі прыязджаць яшчэ. Для тых, каму галоўнае не танная каўбаса з гарэлкай, хто адчувае духоўны голад, такая сустрэча будзе доўга жывіць сэрца і думкі. А гадоў праз 50, не выключана, сённяшнія школьнікі, якія прысутнічалі на сустрэчы, будуць расказваць дзецям, што яны бачылі аднаго з апошніх беларусаў, які ведаў беларускую мову і пісаў на ёй цудоўныя вершы. Каб гэта не здарылася, - беражыце родную мову, будзьце беларусамі, тады і жыццё наша наладзіцца.

## УРАЖАННІ ЮНЫХ ГЛЕДАЧОЎ

**Насця Сясіцкая:** - Я з задавальненнем слухала пісьменніка, чые вершы мы вучылі ў школе. Гэта сустрэча пакінула незабыўныя ўражанні.

**Насця Суворава:** - Было вельмі цікава, калі Генадзь Бураўкін расказваў пра сваё жыццё. Вершы спадабаліся ўсе, але асабліва вершы для дзяцей, якія таксама прагучалі. На працягу двух гадзін у зале гучала чыстая беларуская мова, якую мы, на жаль, сталі забываць і перасталі ёй карыстацца. Я назаўсёды палюбіла вершы Бураўкіна і ўпэўнена, усе слухачы пайшлі дамой, несучы ў сэрцы цёплыя і светлыя родныя словы.

***В. Гракун***

## ГОРА

Ну, за што ж тыя мукі
У дваццатым стагоддзі? –
Бабы ў вёсках у рукі
Косяць сельгасугоддзі.

І няма у іх сілы –
Усю забралі калгасы.
Мужыкі ж у магілах
Пахаваны заўчасна.

Не адбіты іх косы
Ні сягоння , ні ўчора
І не выліць праз слёзы
Несуцешнае гора.

Іхняй рабскаю працай
Камунізм будавалі.
І якой толькі трасцы
Тут ім не абяцалі!

І цяпер зноўку хлусяць:
- Вы, жанкі, пацярпіце,
Хутка змены быць мусяць,
А пакуль пакасіце!

Ды не гнуцца ўжо рукі,
І стаміліся вочы,
Што і так, без прынукі,
Шчыравалі да ночы.

Выміраюць падворкі
І сялібы пусцеюць.
Толькі горачка-гора
Усё квітнее, квітнее...

* * *

Цераз рэчку не шукаю броду,
Стану, загляджуся на ваду.
Да цябе імкнуся я заўсёды,
Ды цябе ніяк я не знайду.

Неба зноў нахмурылася ўранні,
Пад нагамі хісткая зямля.
Я жыву надзеяй на спатканне,
Каб цябе ўбачыць хоць здаля.

Успамінаў ружавеюць далі,
Не схавацца мне ад іх нідзе.
Голасам тваім гамоняць хвалі,
А ўсмешка – сонца ў вадзе.

Напрасткі я крочу асцярожна
У самотнай восеньскай журбе.
У чыстым полі ўюцца тры дарогі:
Па якой ні йду – няма цябе.

**Г. Станкевіч**

# "БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДУ."

Святочныя мерапрыемствы з нагоды 70-годдзя з дня нараджэння таленавітага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча праводзяцца напрыканцы лістапада па ўсёй Беларусі. Але асабліва – на Віцебшчыне, якая нарадзіла і ўзгадавала гэты талент. Тут праходзяць урачыстыя вечарыны і спектаклі, ускладанне кветак да помнікаў Караткевічу і школьныя мерапрыемствы, сустрэчы з пісьменнікамі і выставы мастацкіх твораў .

Адна з галоўных падзей адбудзецца ў Оршы, дзе адкрыецца мемарыяльны музей Уладзіміра Караткевіча.

Шэраг мерапрыемстваў прайшоў і ў нашым раёне. Пра некаторыя з іх раскажам.

## Сустрэча з Бешанковіцкімі паэтамі



Алесь Бабаед



Георгій Станкевіч

Да дзесяцікласнікаў першай Бешанковіцкай школы прыйшлі на сустрэчу мясцовыя паэты – член саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Бабаед і паэт-бард Георгій Станкевіч. Сустрэча пачалася з даклада пра Караткевіча, які зрабіла Каця Кавалёнак. Потым прагучала кампазіцыя з вершаў Караткевіча, у якой удзельнічалі вучні: Марына Белавус, Іра Кухто, Іна Агейчанка,Каця Максімава,Коля Шыпуля, Саша Дарашкоў ,Наташа Гарэлава і іншыя. Алесь Бабаед узгадаў асобныя эпізоды з жыцця Караткевіча і прачытаў свае вершы, прысвечаныя вялікаму земляку. Георгій Станкевіч ажывіў вечарыну сваімі свежымі дасканалымі вершамі і выкананнем уласных песен, якія вельмі спадабаліся прысутным. А галоўнае – на працягу ўсёй сустрэчы гучала беларуская мова, якой зараз так не хапае нам, каб людзьмі звацца.

## Быў. Ёсць. Будзе!

Багата Віцебшчына таленавітымі самародкамі. І ў шэрагу імёнаў лепшых сыноў зямлі нашай – светлае імя Уладзіміра Караткевіча. Ён вядомы як празаік, паэт, драматург, сцэнарыст, публіцыст, перакладчык, літаратурны крытык.

Уладзімір Сымонавіч Караткевіч нарадзіўся 26 лістапада 1930 года ў Оршы. У час вайны быў у эвакуацыі, пасля вярнуўся , атрымаў сярэднюю адукацыю. У 1954 заканчвае філалагічны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта, настаўнічае ў Кіеўскай вобласці. Потым Вышэйшыя літаратурныя і сцэнарныя курсы ў Маскве. З 1957 года Караткевіч – член Саюза пісьменнікаў СССР. З 1962 года жыве ў Міску.

Зусім небагата радкоў, а якое цікавае, насычанае падзеямі, трывогамі, пошукамі і адкрыццямі жыццё!

Упершыню імя Караткевіча з'явілася ў друку ў 1955 годзе – у часопісе "Полымя" быў змешчаны верш "Машэка". Затым вершы Караткевіча пачалі з'яўляцца ў розных выданнях. Выйшла тры ягоныя зборнікі вершаў. Апошні зборнік "Быў. Ёсць. Буду."- паэтычны запавет наступным пакаленням, поўны мудрых высноў жыцця.

Улюбёным і галоўным літаратурным жанрам Караткевіча быў гістарычны і прыгодніцка-рамантычны жанр. Са старонак раманаў"Хрыстос прызямліўся ў Гародні", "Каласы пад сярпом тваім","Чорны замак Альшанскі", "Сівая легенда", аповесці "Дзікае паляванне караля Стаха" паўстаюць змагары за народнае шчасце, пракокі нашай Бацькаўшчыны, рыцары і чароўныя прыгажуні-дзяўчаты. Іх лёсы неадрыўныя ад гістарычных падзей і абумоўлены імі.

Напісанае Караткевічам дае падставу сцвярджаць, што гэта вялікі разнастайны талент. Адна з галоўнейшых заслуг Караткевіча – асвятленне гісторыі Беларусі. Ён адным з першых узяўся за гэту вялікую справу і па-майстэрску рабіў яе ўсё жыццё. "Зямля пад белымі крыламі" – нарыс гісторыі Беларусі, дзе мінулае глыбока асэнсавана ўдумлівым і дасведчаным аўтарам.

Пісьменніцкую ўвагу Караткевіча заўжды прыцягвала і тэма кахання. Раман "Нельга забыць" уражвае чытачоў шчырасцю і паўнатой выяўлення пачуццяў героя.

Уладзімір Караткевіч – наш гонар. Ён быў, ёсць і будзе жыць у нашых сэрцах.

*Кацярына Кавалёнак,*
*вучаніца 10 класа Бешанковіцкай СШ №1*

# "БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДУ."

## Літаратурна- музычная кампазіцыя ў бібліятэцы

У рамках тыдня, прысвечанага памяці Караткевіча супрацоўнікі раённай бібліятэкі падрыхтавалі літаратурна-музычную кампазіцыю. Сцэнарый склала Зінаіда Канапелька. Ролю вядучай выконвала Аксана Падольская. Кампазіцыя пазнаёміла вучняў 11-х класаў Бешанковіцкай школы №1, якія былі запрошаны ў бібліятэку, з жыццёвым і творчым шляхам Уладзіміра Караткевіча. Прагучалі яго вершы : "Орша", "Быў. Ёсць. Буду", "На Беларусі бог жыве" і іншыя Бібліятэкар Зінаіда Бакунова прадставіла прозу Караткевіча, расказала калі былі напісаны і выдадзены найбольш значныя яго творы, у чым іх асноўны змест. Некаторыя з выданняў Караткевіча можна было ўбачыць тут жа на стэндзе.




Зінаіда Канапелька чытае вершы У. Караткевіча

# БЕШАНКОВІЦКАЕ ПАЎСТАННЕ

(пачатак на стар. 2)

Яго творы не вывучаюцца ў школе, а кніг няма ў бібліятэках. Але асоба слыннага патрыёта нашай Бацькаўшчыны заслугоўвае памяці і павагі.

Юрка Віцьбіч – беларус, сын Веліжскага святара. У час паўстання меў 13 гадоў. Пасля ён запісваў успаміны, працаваў з літаратурай і дакументамі. Ён вельмі хацеў разбурыць легенду пра пасіўнасць і непраціўленне злу сярод беларусаў, якую культывуюць улады. Ягоныя працы падарвалі міф аб усенароднай падтрымцы бальшавікоў на Беларусі. Яны замоўчваюцца і сёння.

Даследваў пісьменнік і Бешанковіцкае паўстанне. Вось кароткі пераказ падзеяў, апісаных Ю. Віцьбічам, якія адбываліся ў 1930 годзе.

Пачатак паўстанню паклала вёска Застарынне Ганкавіцкага сельсавету Бешанковіцкага раёна. Пасля суцэльнай калектывізацыі з раскулачваннем выйшаў артыкул Сталіна "Головокружение от успехов" пра парагібы ў час правядзення калектывізацыі. Застарынцы за сала і яйкі набылі зачытаны да дзірак нумар "Праўды" з гэтым артыкулам і, прачытаўшы яго, вырашылі ліквідаваць свой калгас. Яны забралі назад сваю жывёлу і насенне. Падобнае пачало адбывацца і ў іншых навакольных вёсках.

Але праз некалькі дзён у Застарынне прыехала штурмавая брыгада. Распачалося следства. Гаспадароў пачалі арыштоўваць і адпраўляць у Бешанковіцкае ГПУ. У адказ сяляне забілі двух зацятых штурмавікоў і рушылі на Бешанковічы з мэтай вызваліць з ГПУ сваіх аднавяскоўцаў. Сваім камандзірам яны абралі Васіля Гаркавага. Выступленне праводзілася пад лозунгамі: "Далоў савецкую ўладу!", "Далоў калектывізацыю!", "Далоў камуністаў!" Па дарозе да іх далучыліся сяляне вёсак Ганкавічы, Рубеж, Буднікі, Верхняе Крывіна. Калі паўстанцы, узброеныя сякерамі і віламі ўвайшлі ў Бешанковічы, то трапілі пад перакрыжаваны агонь бешанковіцкіх і віцебскіх ГэПэУшнікаў.

Вынік змагання сякер з кулямётамі вядомы: дзевяць паўстанцаў расстралялі, пяцьдзесят чатыры адправілі ў Сібір. Памяць пра іх спаганілі паведамленнямі кшталту: " У лютым 1930 года кулакі Бікложскага і Ганкавіцкага сельсаветаў арганізавалі адкрытае контрвыступленне пад зялёнімі сцягамі. Былі ўчынены здзекі над беднякамі, іх білі, пагражалі забойствам...".

Але праўду схаваць не ўдалося. Магчыма гэтая наша публікацыя трапіць да каго-небудзь, хто зможа падзяліцца сваімі ўспамінамі аб тых падзеях. Можа сярод іх былі вашыя суседзі ці родзічы, можа вы чулі што ад сваіх бацькоў і дзядоў. Будзем вельмі ўдзячныя за кожную драбніцу памяці пра нашых герояў-землякоў. Калі ласка, пазваніце мне па тэлефоне 2-26-93, або напішыце на адрас: Бешанковічы, вул. Маладзёжная, 9/21.

*Валянціна Гракун*

# НА ЛЬНЯНЫМ ПАЛЕТКУ

Наступілі доўгачаканыя восеньскія канікулы. Настаўнікі, як і вучні, загадзя планавалі, як яны правядуць гэты жаданы тыдзень. Але планы ўсе былі раптоўна парушаныя – пачаўся рашучы этап барацьбы за ўраджай на льняных палетках раёна. І настаўнікам у гэтым наступе адводзілася не апошняя роля. Аспрэчваць атрыманы з раённага штаба загад ніхто не стаў і назаўтра настаўніцкі "дэсант" у рабочай форме заняў зыходныя пазіцыі ля вёскі Янаўшчына. Напярэдадні ліў дождж, ногі вязлі ў размытую зямлю. Стаяў даволі халодны густы туман. Памерзшы для пачатку на абочыне дарогі і не дачакаўшыся прадстаўнікоў калгаснага кіраўніцтва, вырашылі захапіць працоўны плацдарм самастойна. Падымаць мокры лён не мела вялікага сэнсу, але і ў чаканні на дарозе сэнсу было не больш. Канец палетка губляўся недзе ў тумане, але хутка стала зразумела, што лен выцераблены толькі лапікамі, а большая частка сіратліва пакруцілася на карані. Мокры нявылежаны лён аказаўся вельмі халодны, рукі праз паўгадзіны сталі дубянець. Пачалася дыскусія на тэму: "Як убіраюць лён у цывілізаваных краінах?" Але да агульнага меркавання наконт таго, што ж рабіць з ім у нашых умовах так і не прыйшлі, бо ў становішчы ўніз галавой думкі і пытанні ў большасці наогул зніклі. Затое дружна зашморгалі насы.

Паступова за спінамі ўсталі няроўныя рады ільняных канусоў. На полі з'явілася папаўненне з ліку прадстаўнікоў розных раённых арганізацый, якім відаць у гэты дзень таксама не было чаго рабіць. Гадзіны праз тры ўвесь лён быў узняты з зямлі. Задавальнення гэтае дасягненне не прынесла. Перашкаджала адчуванне непатрэбнасці і злачыннай абыякавасці да ўсёй гэтай дарэмнай працы. Чаму калгасам, якія стаяць на каленях, павінны ўвесь час дапамагаць пад прымусам тысячы людзей? Ці будзе якая карысць з гэтага недалежанага мокрага' ільну, або так і зазімуе ён на сцелішчы помнікам дзікай прыгонніцкай сістэмы, безгаспадарчасці і безгаловасці? А наступнай вясной неперагніўшыя астанкі мінулага ўраджаю запалаюць, каб аслабаніць поле пад ураджай наступны, а з дымам пойдуць ў паветра і тыя крэдыты, якія сістэматычна ўліваюцца ў мёртвае цела калгасаў, і апошнія надзеі простых людзей на нейкае лепшае жыццё.

Укаранялі-укаранялі перадавую тэхналогію ўборкі свежавыцерабленага ільну, ды так і адкаціліся на зыходныя пазіцыі : да цяжкай ручной працы, як і ў астатнім. Не патрэбна нам цывілізацыя. Мы і без яе наперадзе ўсёй планеты. Шыкоўныя дажынкі справіць можам, у хакей згуляць можам. Расію можам ад НАТА абараніць, а народ ад дапатопнай ручной працы вызваліць не можам. І не трэба гэта рабіць, бо народ, калі разагнецца і галаву ўзніме, можа думаць пачаць. А гэта ўжо небяспечна, хто яго ведае, да чаго дадумаецца.

Туман над палеткам развеяўся, расхінуўшы далягляд. А ці развеецца калі-небудзь туман у галовах нашых кіраўнікоў? Ці ўбачым мы светлае жыццё пры жыцці, ці толькі будзем слухаць абяцанкі пра яго?

***Г. Станкевіч***

# ЯК ЦУКАР У ГАРБАЦЕ

Усё радзей можна пачуць беларускую мову. Яна знікае на вачах, бо на гэта знікненне яе ахвяравалі тыя, хто прагаласаваў за "двухмоўе", да гэтага знікнення свядома вядзе ўлада. Вось якое атрымліваецца двухмоўе: у любым уладным кабінеце, ва ўсіх установах з вамі размаўляюць толькі па-руску. Школы ў Бешанковічах і Уле – цалкам рускамоўныя. Нават раённая газета, якая раней абавязкова друкавала матэрыялы на беларускай мове, зараз перайшла на рускую мову. Зніклі з літаратурнай старонкі беларускія вершы пачынаючых паэтаў. А нядаўна звярнула ўвагу на публікацыю настаўніка з Каранеўскай СШ В. Сланцава. Падпісваецца "настаўнік беларускай мовы", а піша па- руску. Родная мова ў нас ужо на правах замежнай. Патэлефанавала неяк у Пяцігарскую школу, спытала, калі будзе наступны перапынак. Адказ атрымала толькі пасля таго, як паўтарыла сваё пытанне па-руску.

Няма каму абараняць мову, акрамя нас саміх. Прэзідэнт на роднай мове толькі кляўся. У дэпутаты ад Бешанковіцкага раёна выбіраем рускіх - мінулым разам Ананьева, зараз Лектарава. Вядома ж, яны пра беларускую мову не паклапоцяцца. А мы, адмаўляючыся ад роднай мовы і незалежнасці, страцім самі сябе, растворымся сярод рускіх, як цукар у гарбаце.

***В. Гракун, кіраўнік Бешанковіцкай суполкі ТБМ***

# ПЕ - РА - МЕ - НАЎ !

12 лістапада ў Мінску сіламі міліцыі і ўнутраных войскаў была разагнана дэманстрацыя моладзі пад лозунгам: "Пераменаў!". Акцыю ініцыявала кааліцыя апазіцыйных маладзёжных арганізацый сярод якіх "Малады фронт", "Маладая грамада", маладзёжная арганізацыя АГП, "Беларускае аб'яднанне маладых палітыкаў", "Задзіночанне беларускіх студэнтаў" і іншыя.

"Моладзь патрабуе пераменаў, свабоды і дэмакратыі, - заявіў лідэр "Маладога фронту" Павел Севярынец, - Моладзь не хоча жыць у краіне хлусні і страху, рабскай псіхалогіі і дыктатуры. І ніхто не адбярэ ў нас права жыць у свабоднай незалежнай Беларусі".

Было затрымана больш 100 чалавек, у асноўным непаўналетнія.

# Гэта было…

## Віншуем

*Уладзіміра АСОКІНА*
*з Днём нараджэння.*
*Жадаем шчасця, здароўя, творчых поспехаў. А лепшы падарунак для паэта – убачыць надрукаваным свой новы верш.*

### ВОСЕНЬ

Чырвоныя шчокі каліны
Цалуе мароз у бары.
Гамоняць сяброўкі-яліны
А месяц заснуў дагары.

Сузор'і, нібыта рамонкі,
У азёрных нябёсах цвітуць.
Паспелыя сочныя гронкі,
Як зоркі на дол упадуць.

Абапал дарогі шыпоўнік
Міргае чырвоным святлом.
Сумуюць пустыя шпакоўні –
Пакінулі птушкі свой дом.

І клін жураўліны знікае
На ростанях зорных дарог.
А восень стамлёна чакае
Прыходу зімы на парог.

*Уладзімір Асокін*

### ГОЛЫЯ ГУСІ

Заварылі бацькі брагу для самагонкі. Бочку з брагай паставілі не на падворку, бо вельмі міліцыі і начальства баяліся, а каля канавы за гародам. А тут якраз міліцыя ў вёску і прыехала. Не чакаючы, пакуль прыйдуць шукаць, перапалоханая маці вывернула брагу ў канаву. Міліцыянеры хутка ад'ехалі, маці занялася справамі, а бабуля агледзела, што гусі іхнія валяюцца дохлыя. Вясна, паразімаваўшых гусей шкада. "Нават галовы паадсякаць не паспелі, - гаравала старая, - трэба хоць пер'е з іх абадраць". Абадрала яна так-сяк пер'е і аднесла бедных гусей "у расцяроб" – так называлі кусты каля лесу. За ноч гусі працьверазіліся ( яны ў канаве брагі нахапаліся столькі, што і прыкметаў жыцця не падавалі, нават калі бабуля з іх пер'е вышчыпвала) і, як ні ў чым ні бывала, вярнуліся на родны двор. Толькі гаспадар двара – певень доўга не прызнаваў былой велічы гагатуноў, нападаў на іх , пакуль новым пер'ем не абраслі.

### ЕХАЎ НА КАЗЛЕ

Бацька набыў матацыкл. Ездзіць яшчэ добра не навучыўся, але адразу падаўся ў суседні Пяцігарск па справах. Ен не быў п'яніцам, але ў Пяцігарску яго ўгаварылі абмыць пакупку. Абмылі відаць добра, бо назад бацька ехаў вельмі асцярожна, падпіраючыся нагамі і ледзь трымаючыся сцежкі. А мы з сястрой беглі побач і насьміхаліся. Дома бацька кінуў свайго жалезнага каня пасярод двара і пайшоў прасіць жонку, каб дапагла закаціць яго ў хлеў. Дзяўчаты ж вырашылі пажартаваць, хуценька адкацілі матацыкл, а на тое месца паставілі казла, на якім дровы піляць. Маці адразу зразумела, што дочкі ўшкурылі, але віду не падала. А бацька ўжо не мог адрозніць казла ад матацыкла, але, падыйшоўшы бліжэй, заўважыў адсутнасць калёс. –" Глядзі, Васіліна, калёс няма! А як жа гэта я на ім ехаў?" - Ехаў на казле і за рогі трымаўся, - засмяялася маці.

### НЯЧЫСТАЯ СІЛА

У Мамойках на калгасным таку паставілі электрычную малацілку. Ноччу яе вартавалі па чарзе. А ў вёсцы жыў адзін стары вельмі набожны чалавек, яго называлі "Баптыстам". Загадалі і яму аднойчы вартаваць ток. Той прыйшоў, вартуе. А ў гэты дзень якраз электрычнасць адключылі. Калгаснікі, якія малацілі лён, разыйшліся, а машыну адключыць забыліся. І вось сярод ночы раптам свет уключыўся і малацілка "сама" запрацавала. Баптыст упаў на калені і пачаў маліцца, яму здалося, што тут без нячыстай сілы не абыйшлося, нікога ж на таку не было.



### МАРУСЬКА

Пасля вайны шмат жабракоў хадзіла. Усе разумелі, што трэба дапамагаць гэтым людзям, але іх з'яўленне ў вёсцы нікога не радавала. Самім ежы не хапала, ды і вошай ці кароcты якой маглі прынесці ў хату. І вось аднойчы Маруська, якая была здольнай на ўсякія выдумкі, вырашыла разыграць аднавяскоўцаў. Пераапранулася жабраком і зайшла ў вёску. Лахманы начапіла на сябе гразныя, ідзе пацiху, і ўвесь час чэшацца. Час быў вячэрні, яна падыходзіла да гаспадароў і прасілася пераначаваць. Вельмі цяжка было суседзям. Адмовіць "божаму чалавеку" нельга, грэх. Ды і разумелі спакон веку нашы людзі, што " ад сумы, як і ад турмы " нельга заракацца, заўтра можа самому прыйдзецца пайсці з працягнутай рукой. Але як пусціць у хату такога абарванца, ды яшчэ з нейкай часоткай ? Кожны стараўся неяк адгаварыцца, ці прамаўчаць. Вось так адразу ўсіх суседзяў праверыла " на вашывасць" дасціпная Маруська.

*Усе гэтыя гісторыі мне расказала вясковая жанчына, загадчыца Стрыжаўскай бібліятэкі, Зоя Паўлаўна Шытуля. Зоя Паўлаўна зараз жыве ў Дукоўшчыне, а нарадзілася і вырасла ў невялікай вёсачцы Ганчарова, што прытулілася каля лесу. Яна памятае шмат вясковых падзей, а кожная з яе гісторый – гатовы матэрыял для рубрыкі "Гэта было", мне заставалася толькі запісваць. Калі вы таксама можаце нешта падобнае ўспомніць, тэлефануйце нам. З цягам часу мы збіраемся сабраць гэтыя гісторыі і выдаць асобным зборнікам, будзе шкада, калі Ваша гісторыя ў той зборнік не трапіць і не захаваецца ў памяці людзей. Бо гэта ж было…*

***В. Гракун***

"Кардон". Бюлетэнь Бешанковіцкай суполкі "Таварыства Беларускай мовы ", № 16, лістапад 2000.
Рэдкалегія: Валянціна Гракун, Георгій Станкевіч ,Уладзімір Асокін. Кампьютэрны дызайн і вёрстка:А.Каліноўскі .
Тыраж 299. Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага філіяла "Фонда імя Льва Сапегі". Распаўсюджваецца бясплатна.
Тэл. 2 – 26 – 93, 211 350, Бешанковічы, Маладзёжная, 9 – 21.